І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНЫ

Інфармацыйны бюлетэнь HOMIEL NEWS

*спецвыпуск*

Верасень 2011

## Рэформа сістэмы МУС

**Пачынаецца з Гомеля!**

**Тэма нумару:**

*Народная праграма ў дзеянні - пачакак грамадскага абмеркавання рэформы МУС*

НАРОДНАЯ ПРАГРАМА

www.prahrama.by





# Неабходна змена прыярытэтаў

*Алег ГУЛАК*

Сур'ёзнае рэфармаванне павінна быць комплексным – пачынаючы з кадравай палітыкі, адукацыйнай і сканчаючы нарматыўнымі дакументамі, найперш ведамаснымі інструкцыямі. Неабходная змена прыярытэтаў, карэктаванне накіраванасці працы. Так, напрыклад, павінна быць прапісанае права міліцыянера не выконваць незаконны загад.



Дзейнасць міліцыі павінна быць скіраваная на барацьбу са злачыннасцю і абарону правоў грамадзян. Пры гэтым дзейнасць МУС мусіць быць празрыстай, а гэтага можна дасягнуць праз супрацу з няўрадавымі арґанізацыямі. І да такога рэфармавання можна прыступаць ужо цяпер.

Акцэнт мусіць рабіцца на тое, што міліцыя мае выконваць дзяржаўную функцыю ў інтарэсах людзей. Трэба павышаць давер да праваахоўных органаў. Зараз калі пагаварыць з супрацоўнікамі міліцыі, дык яны тлумачаць нізкі ўзровень даверу тым, што ў іх такая функцыя – змагацца з незаконнасцю, быць органам пакарання, як тыя самыя суды.

Рэфармаванне будзе мець пазітыўны рэзананс і ў самых праваахоўных органах, таму што большасць прыходзіць займацца карыснымі справамі – барацьбой са злачыннасцю, а даводзіцца выконваць і нагружаныя іншыя функцыі. Тым самым пераследам іншадумцаў.

Дарэчы, як кіроўца магу сказаць, што ДАІ – прыклад, калі ёсць жаданне, зменаў у лепшы бок. Гэтак што, станоўчы досвед рэфармавання ў сістэме МУС ёсць.

Крыніца:
http://www.prahrama.by/by/node/4

# Аб Народнай праграме

Народная праграма: што гэта?

"Народная праграма" – гэта грамадская ініцыятыва па выпрацоўцы новага пазітыўнага бачання будучыні Беларусі. На гэтым шляху ініцыятары праграмы імкнуцца аб'яднаць прафесійныя высілкі экспертнай супольнасці і ўдзел самага шырокага кола грамадзянаў у абмеркаванні найбольш вострых і надзённых пытанняў развіцця краіны. Экспертамі праграмы будуць прапанаваныя тэзы і контртэзы па праблемах і шляхах пераўтварэнняў у галінах палітыкі, эканомікі, адміністравання, сацыяльнага забеспячэння і нават штодзённага жыцця. Гэтыя прапановы будуць падлягаць грамадскай крытыцы і абмеркаванню на спецыяльных публічных мерапрыемствах "Народнай праграмы" – круглых сталах, прэзентацыях, грамадскіх слуханнях, а таксама ў сродках масавай інфармацыі ды прасторы беларускага Інтэрнэту. Новае бачанне будучыні Беларусі будзе фармавацца праз сутыкненне экспертных меркаванняў і грамадскай думкі, прафесійных падыходаў і таго, што найбольш хвалюе кожнага грамадзяніна краіны.

Народная праграма: хто гэта?

Ідэя стварэння новага пазітыўнага бачання будучыні Беларусі першапачаткова была прапанаваная Рухам "За Свабоду" групе незалежных экспертаў, што увайшлі ў каардынацыйную групу "Народнай праграмы". Ідэю стварэння "Народнай праграмы" падтрымала кааліцыя "Беларускі выбар".

Праграма – гэта адкрытая ініцыятыва, да якой вольна могуць далучацца як прафесіяналы ў розных тэматычных галінах, так і грамадскія і палітычныя арганізацыі, што практычна зацікаўленыя ў рэформах і пераўтварэннях у Беларусі. Мы зацікаўленыя ў як мага шырокім далучэнні да нашай ініцыятывы, бо толькі сапраўднае грамадскае абмеркаванне будзе падставай для фармавання рэалістычнай канцэпцыі і праграмы будучага развіцця краіны.

Народная праграма: як гэта?

Першасныя тэзы "Народнай праграмы" будуць прапанаваныя экспертамі. Штотыдзень у публічнай прасторы праз афіцыйны сайт "Народнай праграмы" будзе абвяшчацца тэма для абмеркавання. Эксперты і прафесіяналы у гэтых тэматычных галінах будуць далучацца да дыскусіі праз круглыя сталы ў Мінску і рэгіёнах краіны, абмеркаванні ў СМІ і Інтэрнэт-прасторы. Любы зацікаўлены наведвальнік сайту будзе мець магчымасць выкласці свае меркаванні датычна абвешчанай тэмы і прапановаў экспертаў. Вядучы эксперт па заяўленай тэме будзе ўдзельнічаць ў палеміцы і адстойванні сваіх прапановаў. Наведвальнікі сайту і запроша-




ныя эксперты змогуць весці рэйтынг прапановаў і іх аўтараў. Пасля абмеркавання экспертная група будзе падагульняць вынікі дыскусіі ў выглядзе праграмных прапановаў будучых пераўтварэнняў і рэформаў.

Народная праграма: для каго гэта?

Тэзы "Народнай праграмы" – гэта калектыўная творчасць навукоўцаў, спецыялістаў, практыкаў і звычайных людзей краіны, якія штодзённа сутыкаюцца з актуальнымі для іх пытаннямі. Капірайту на тэзы "Народнай праграмы" не можа быць, бо яна павінна належаць усім грамадзянам краіны. Любая палітычная ці грамадская сіла можа скарыстаць выпрацаванае бачанне ў сваіх праграмных дакументах альбо практычнай дзейнасці.

Будуем разам новую Беларусь!

Крыніца: http://www.prahrama.by/by/node/34

# Хто замовіць рэформы МУС?

*Юрый ЧАВУСАЎ*

Тэма рэфармавання сістэмы МУС увесь час дыскутуецца ў Беларусі, яна атрымала вызначаны індэкс зацікаўленасці падчас правядзення фокус-груп сярод грамадзян Беларусі па пытанні таго, што актуальна рэфармаваць у Беларусі. Немалаважным будзе адзначыць, што ў нас МУС з'яўляецца адным з элементаў таго механізму палітычных рэпрэсій, які ў Беларусі існуе. Гэта, напэўна, у большай ступені з'яўляецца выклікам, які трэба ўлічваць будучым рэфарматарам беларускай сістэмы. У досведзе іншых краін, якія праходзілі трансфармацыю ад аўтарытарнага ладу, гэты аспект таксама ўлічваўся, паколькі адбывалася трансфармацыя яшчэ ад савецкага механізму, дзе органы МУС таксама выконвалі вызначаныя палітычныя функцыі.

Надоечы ў Менску ў раёне вул. Няміга натоўп людзей уступіла ў цвёрды канфлікт з прадстаўнікамі МУС, якія жадалі затрымаць чалавека, які абараняў безквітоўніка. Гэты чалавек на два дня ператварыўся ў героя. Паўстала нават народная ініцыятыва для таго, каб сабраць грошы на штраф. Гэта ўсё сведчыць пра сур'ёзныя праблемы не толькі іміджавага, але і функцыянальнага плану перад органамі МУС.

Сітуацыя падобная гэтай, але значна сур'ёзней адбылася два гады назад у Літве, калі малады чалавек практычна стаў амаль нацыянальным героем, здзейсніўшы забойства супрацоўнікаў унутраных спраў і супрацоўнікаў органаў юстыцыі. Гэты малады чалавек атрымаў падтрымку грамадскасці, паколькі гэта было расцэнена як справядлівы акт месці. Гэта значыць праблема даверу да праваахоўных органаў актуальная ня толькі ў Беларусі.

Рэфармаванне структуры МУС нельга загнаць у рамкі дзвюх асноўных тэз: скарачэнні колькасці і перакідванне службаў з аднаго ведамства ў іншае. І калі нам кажуць, што колькасць скароцім, далучым тое і прыбяром гэтае, – гэта насамрэч не рэфармаванне. Нельга разглядаць рэфармаванне міліцыі ў адрыве ад рэфармавання сістэмы дзяржкіравання ў цэлым і нават ад пытанняў развіцця






ўсёй палітычнай сістэмы, усяго дзяржаўнага ўладкавання. Пры гэтым выбар мадэлі рэфармавання залежыць ад той сістэмы, якая існуе ў кожнай пэўнай краіне.

Пытанні цэнтралізацыі, дэцэнтралізацыі, прылады сістэмы МУС залежаць ад прававой сістэмы пэўнай краіны. Неабходна асоба спыніцца на пытанні: хто ёсць замоўца рэфармавання сістэмы МУС? Бо ёсць інтарэс з боку органаў МУС, ёсць палітычная інтарэс з боку палітыкаў і ёсць пэўны запыт з боку грамадства, як гэта можна бачыць па сацыялагічных апытаннях у Беларусі.

І вядома будзе вельмі крыўдна, калі адбудзецца падмена рэфармавання той гонкай за колькасныя змены, што, напэўна, можа адбыцца ў Беларусі, паколькі ў Беларусі найвялікая колькасць супрацоўнікаў органаў унутраных спраў на душу насельніцтва ў нашым рэгіёне. У Расіі прыходзіцца 970 супрацоўнікаў на 100 тыс. насельніцтва, у той час як у Беларусі 1400 супрацоўнікаў на 100 тыс. насельніцтва.

У Польшчы рэфармаванне паліцыі правёў не адмысловец, а былы дысідэнт, які бачыў сістэму з іншага боку. Але гэта лішні раз пацвярджае тое, што калі ў краіне ёсць палітычная воля на рэфармаванне, грамадская замова, тое гэта рэфармаванне можна будзе правесці адэкватна. І той факт, што пасля гэтай рэформы ўзровень даверу да паліцыі значна ўзрос, дзякуючы змене персанальнага складу, гэта паказчык таго, што пры наяўнасці грамадскай зацікаўленасці, грамадскага кантролю за працай органаў МУС, у тым ліку кантролю не толькі з боку няўрадавых арганізацый, але і з боку СМІ, органы МУС могуць быць удасканалены і ў значнай ступені аптымізаваны.

*Крыніца: http://www.prahrama.by/by/node/4*

# Ігара Случака пакаралі 3 суткамі арышту



***Суд Савецкага раёну Гомеля 31 жніўня прызнаў грамадзкага актывіста Ігара Случака вінаватым у дробным хуліганстве.***

Случака пакаралі трыма суткамі арышту. Аднак паколькі такі самы тэрмін ён пасьпеў адседзець адразу пасьля затрыманьня, то суд палічыў, што ён ужо адбыў пакараньне.

Справу разглядаў Сяргей Шаўструк.

26 жніўня за пару дзясяткаў крокаў да свайго дома Ігар Случак нібыта штурхнуў мінака, 21-гадовага сьлесара лякаматыўнага дэпо Сяргея Замая. Пры гэтым Случак лаяўся.

Замай зьвярнуўся да спэцназаўцаў, якія былі непадалёк.

У судзе Сяргей Замай паўтарыў апісаную ў протаколе гісторыю.

Ігар Случак запытаўся ў "пацярпелага" сьлесара, колькі разоў яго прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасьці.

Замай: "Сем разоў".

Случак: "А ці стаялі вы, будучы школьнікам, на ўліку ў камісіі па справах непаўналетніх?"

Замай: "Стаяў, але ня памятаю, за што".

Случак хадайнічаў, каб раздрукоўку асабістай старонкі Замая з сацыяльнай сеткі дадаць у адміністрацыйную справу, але судзьдзя адхіліў хадайніцтва, бо гэтага не хацеў "пацярпелы".

«Суд праходзіў у камічным рэчышчы. Сьведка, якога я нібыта абразіў, неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасьці… Ён ня памятае, за што яго шматкроць прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасьці, але па сэкундах памятае, як і дзе я яго нібыта абразіў», — падзяліўся ўражаньнямі ад паседжаньня суду Случа́к у інтэрвію БелаПАН.

Грамадзкі актывіст не прызнаў сябе вінаватым. Кажа, што будзе абскарджваць рашэньне суду.

«Гэта быў ня суд, а фарс, тэатар, але гэта добрая прак-



тыка для мяне як студэнта юрыдычнага факультэту. У нас ёсьць такія несапраўдныя навучальныя суды на практычных занятках, вось я і выступіў у навучальным судзе — незразумелыя сьведкі, якія пацярпелі, як гульня», — дадаў Случак, які навучаецца на юрфаку Тартускага ўнівэрсытэту ў Эстоніі.

. «Мая вэрсія затрыманьня самая простая — я ўвесь гэты месяц займаўся пачаткам абмеркаваньня рэформы Міністэрства ўнутраных спраў. Фінальным акордам мелася быць сустрэча супрацоўнікаў МУС, сродкаў масавай інфармацыі — залежных і незалежных, кіраўніцтва гораду. Такая сустрэча плянавалася на 27 жніўня. Усім былі разасланыя запрашэньні. Міліцыі дасылаліся яшчэ й прапановы, апытальныя лісты. Але ўлады, супрацоўнікі міліцыі ці тыя, каму гэта не падабалася — яны вырашылі, мабыць, каб я на гэтую сыстэму паглядзеў знутры, і мяне затрымалі», — патлумачыў Ігар Случак.




"пацярпелы" сьлесар Сяргей Замай

*Крыніца: http://www.svaboda.org/content/article/24313431.html*

# Міліцыя з народам?

## Ад правазабароннай – да праваахоўнай сістэмы

***Павел ЛЕВІНАЎ***

Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь уважае, што міліцыя з народам.




Народ Беларусі нядаўна на Нямізе паказаў (гл. артыкул на Радыё Свабода), што ён не з міліцыяй, а супраць яе! Ды і як мага быць за яе? За тую міліцыю, што фальсіфікуе пратаколы пра адміністрацыйныя правапарушэнні і крымінальныя справы. За тую міліцыю, што ўжывае катаванні супраць уласнага народа. За тую міліцыю, што прыніжае чалавечую годнасць грамадзян. За тую міліцыю, што займаецца палітычным вышукам.

Міліцыю часта завуць праваахоўным органам. Як можна з гэтым згаджацца? У нашай краіне гэта правазаборонны і карны орган.

Хто прывядзе прыклад, калі міліцыя абараніла правы грамадзян на свабоду мірных сходаў і выказванне свайго меркавання? Як толькі насмеліўся грамадзянін выказаць сваё меркаванне – неадкладна складаецца пратакол за нецэнзуршчыну, выйшаў на мірны сход – пратакол за непадпарадкаванне. Гэта ў лепшым выпадку. Як паказалі падзеі снежня 2010 года, за рэалізацыю сваіх правоў можна атрымаць дубінкай па галаве ад міліцыі (якая з народам?), а потым наступныя прэзідэнцкія выбары сустрэць у месцах не гэтак аддаленых. Хоць права на мірныя сходы і выказванне меркавання – найважныя палітычныя правы. Правы, што ґарантаваныя Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Пра тое, што міліцыя ўжывае катаванні, жорсткае і нялюдскае абыходжанне і пакаранне да грамадзян і зневажае іх чалавечую годнасць,




сведчаць шматлікія скаргі ў праваабарончыя арганізацыі і пракуратуру краіны.

Беларускай міліцыі неабходны радыкальныя рэформы.

Міліцыя павінна падзяляцца на крымінальную і муніцыпальную.

Крымінальная міліцыя – падпарадкавана толькі міністэрству.

Яе мэты і задачы – выяўленне злачынстваў, першаснае дакументаванне і перадача матэрыялаў у следчыя органы.

Муніцыпальная міліцыя – падпарадкавана мясцовым органам самакіравання і служыць для аховы грамадскага парадку, абароны правоў і свабодаў насельніцтва і забеспячэнні бяспекі на дарогах. Яе дзейнасць павінна быць падкантрольная грамадзянскаму грамадству.

У сістэме МУС не павінна застацца следчых органаў. Роўна як іх не павінна быць у пракуратуры, камітэце дзяржбяспекі і іншых структурах. Следчы камітэт павінен быць незалежным органам.

Гэта дазволіць зменшыць карупцыю і самаўпраўнасць сярод супрацоўнікаў міліцыі і дапаможа вярнуць згублены давер насельніцтва да міліцыі.

*Пытанні для дыскусіі:*

1. Міліцыя ў Беларусі – праваахоўны ці карны орган?

2. Ці неабходна рэформа органаў унутраных спраў Беларусі? І ці гатовая міліцыя пайсці на рэфармаванне?

3. Ці павінен ажыццяўляцца грамадскі кантроль за дзейнасцю органаў міліцыі?

Крыніца: http://www.prahrama.by/by/node/4

# Міліцыянты не хочуць, каб іх ведалі?

Гамяльчанін Ігар Случак звярнуўся з прапановай стварыць на сайце Упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама спецыяльны раздел, на якім кожны з жыхароў Гомеля зможа даведацца аб сваім участковым інспектары міліцыі.

“Зараз на сайце ініцыятывы “Народная праграма” ідзе абмеркаванне па тэме “Міліцыя з народам?”. Мне як правазнаўцу гэта тэма цікавая тым, што яна прапаноўвае рэформы сістэмы МУС. Але так склалася, што грамадскага абмеркавання гэтай праблемы раней не было. Грмадзяне выказваюць сваю незадаволенасць аддзельна, супрацоўнікі міліцыі аддзельна, але каб ішло абмеркаванне праблемы абодвума бакамі разам – такога няма. Я вырашыў распачаць гэты дыялог і пачаць яго з Гомеля”., – адзначыў Ігар Случак.

Прапанова была адаслана ў адміністрацыі раёнаў Гомеля, раённыя ўпраўленні ўнутраных спраў, а таксама ва ўсе грамадскія пункты аховы правапарадку і іншыя ўстановы і падраздзяленні сістэмы МУС Гомеля.

“Напачатку было вырашана звярнуцца да ўчастковых інспектараў міліцыі з прапановай дасылаць свае меркаванні аб рэфармаванні сістэмы МУС. На мой погляд, участковыя інспектары міліцыі, як ніхто іншы загружаныя працай, якою аднаму чалавеку выканаць цяжка. Безумоўна, сітуацыя вымагае таго, што патрэбна рэформа МУС, і адным з першых крокаў павінна быць іменна павелічэнне участковых інспектараў міліцыя мінімум у 4-5 разоў, бо зараз на іх ляжыць каласальная нагрузка.

Але сталася праблемай, што грамадзянам не магчыма даведацца, хто з'яўляецца ўчастковым у месцы іх пражывання.

Напрыклад на сайце Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкама ёсць спецыяльны раздзел “Знайдзі свайго ўчастковага” http://www.guvd.gov.by/finduim/ дзе можна даведацца хто з'яўляецца участковым інспектарам міліцыі, дзе яго можна знайсці, на які тэлефон можна патэлефанаваць.

На сайце Упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкакма http://www.uvd.gomel.by/ такога раздзелу няма, але на наш погляд, ён павінен быць, бо гэта вельмі спросціць працу ўчастковых, магчыма будзе папераджаць шматлікія правапарушэнні і злачынствы.

Таму ў звароце я прапанаваў даслаць свае звароты з такой прапановай у Упраўленне ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкакма, каб паспрыяць хутчэйшаму з'яўленню такога раздзела на сайце гэтага падраздзялення.




Але ўліваючы, што могуць узнікнуць некаторыя складанасці і можа спатрэбіцца час для распрацоўкі адпаведнага раздзела на сайце, было прапанавана дасылаць інфармацыю аб участковых (імя, кантакты, адрасы тых дамоў, за грамадскім парадкам якіх яны сочаць) на мой адрас.

Я размяшчу іх у сваім Жывым Журнале, а таксама распрацую для гэтых мэтаў спецыяльны сайт і кожны жыхар Гомеля і Гомельскай вобласці зможа без аніякіх праблемаў знайсці свайго участковага інспектара міліцыі.

Акрамя таго, што праца ўчастковых пасля гэтага стане лягчэй, тым самым будзе пакладзены пачатак грамадскага дыялогу паміж супрацоўнікамі міліцыі і грамадзянамі, і хто ведае, магчыма гэта паклад-зеце пачатак рэфармаванню ўсёй сістэмы МУС" – адзначыў Ігар Случак.

Крыніца: http://dzedzich.org/wp/2011/08/16/milicyyanty-ne-hochuc-kab-ih-vedali/

*Ці ведаеце Вы, што:*

У 2010 годзе за парушэнне законнасці і дысцыпліны толькі ў Гомельскай вобласці былі прыцягнуты да адказнасці 837 супрацоўнікаў органаў унутраных спраў.

*Ці ведаеце Вы, што:*

60% злачынстваў раскрываюцца органамі ўнутраных спраў. Тры гады раней раскрывальнасць была ўсяго 49%.

*Ці ведаеце Вы, што:*

23% беларусаў турбуе злачыннасць, гэта чацвёртае месца ў рэйтынґу турбот беларусаў, - такія дадзеныя Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта.

*Ці ведаеце Вы, што:*

Укушаны палец беларускага міліцыянера каштуе ў 8 раз даражэй за палец расейскага паліцыянта і ў 19 раз даражэй ад украінскага. Штрафы за гэта правапарушэнне параўнаў часопіс Esquire. У лютым 2010 годзе ў Віцебску суд аштрафаваў беларуса, які ўкусіў супрацоўніка органаў унутраных спраў пры выкананні, на 2,5 мільёна рублёў.

*Ці ведаеце Вы, што:*

180 тысяч рублёў у сярэднім кожнаму беларусу абыйдуцца ў 2011 годзе органы ўнутраных спраў. Кожны дзень працы міліцыі - 500 рублёў з чалавека. Міліцыя каштуе ў 6,5 разы больш за культуру, даражэй аховы аховы здароўя і трохі саступае выдаткам дзяржавы на абарону і войска (менш на 8%).

# МВД в роли самостоятельной карательной организации

***Пётр КУЗНЕЦОВ***

Иногда, чтобы стала очевидной суть вещей, приходится пристально вглядываться в детали.

Мы давно привыкли за всеми кознями режима просматривать руку КГБ. Конечно, мы представляем, что в Беларуси предостаточно и других карательных структур. Собственно говоря, все госучреждения нашей страны сегодня могут выступать в роли карателей: от учреждений образования до военкоматов и налоговых инспекций.

Однако всех их мы привыкли воспринимать как «пособников» диктатуры, оставляя в своём сознании нишу непосредственно «палачей» исключительно одной структуре. Надо заметить, что примерно так же, в роли «пособников», а не непосредственно палачей, играющих своё соло, мы привыкли воспринимать и структуры МВД. Которые, кстати, даже чисто по закону координируются в подобных делах госбезопасностью.

Ничуть не умаляя «заслуг» КГБ на поприще борьбы с инакомыслием и свободно мыслящими гражданами, хочу подробнее остановиться на роли и месте в репрессивной машине государства как раз милиции.

Сегодня в Гомеле будет суд над общественным активистом Игорем Случаком. Его забрали в пятницу вечером, будто бы он публично ругался матом, и до суда бросили в следственный изолятор.

Задержание Случака – это был лёгкий шок для любого знающего ситуацию человека. Дело в том, что Игорь – активист-одиночка. Долгое время он появлялся на страницах СМИ как человек, единолично ведущий кампанию «Справаводства па-беларуску»: писал письма в государственные учреждения и требовал, чтобы ему отвечали на языке вопроса. То есть, по-белорусски.

Весь опыт оппозиционной и общественной деятельности говорит о том, что такие люди априори не воспринимаются властью всерьёз, как угроза. Режим воспринимает их, как безобидных чудаков, которые доставляют некоторый «ге-




моррой». Правда, иногда их деятельность даже приносит властям пользу. Отвечая на их безобидные требования конструктивно, можно вполне изображать из себя приличных людей, в ущерб имиджу «отмороженной» власти, который всё больше ширится даже среди обывателей.

Какой смысл сажать такого «на сутки»? Эту меру, мы все хорошо знаем и понимаем, власть применяет только к людям, от кого ждёт для себя каких-то неприятностей: публичных выступлений, острой критики, организационных каких-то действий, способных куда-то подвигнуть пусть даже и небольшие, но массы. Но Случак, с его «Справаводствам па-беларуску»? Это смешно…

Смешно, если не вглядываться в детали.

Объясняя задержание активиста, независимые Интернет-СМИ поспешили сделать акцент на том, что на субботу он запланировал пресс-конференцию, на которой намеревался сделать публичный отчёт о кампании, которую уже, судя по всему, посчитал завершённой. Так что, его бросили в ИВС, чтобы не дать рассказать о том, как он писал чиновникам письма и требовал белорусскоязычного ответа?

На самом деле, такая трактовка мотивации властей – поверхностная и легкомысленная. Я специально делаю акцент на этом деле, потому что оно хорошо иллюстрирует одну достаточно занимательную тенденцию, которую нельзя обойти вниманием.

На субботней пресс-конференции, помимо рассказа о кампании «Справаводства па-беларуску», Игорь Случак запланировал ещё и обсуждение одного из вопросов «Народной программы» Движения «За Свободу!», а именно: «Вопросы реформы системы МВД: опыт соседей и вызовы для Беларуси». Именно ради этого были приглашены на встречу представители местных ОВД, а не для того, чтобы слушать про белорусское делопроизводство.

«Народная программа» - это такой проект общественной коалиции, куда входит много субъектов гражданского общества Беларуси, и который координируется Движением «За Свободу!». Кампания направлена на разработку консенсусной позитивной альтернативы для будущей Беларуси – в противовес существующему сегодня безграмотному мракобесию. В дискуссии принимают участие профильные эксперты, представители целевых групп, простые граждане, и, конечно же, приглашаются представители профильных ведомств.

Примечательно, что все мероприятия проекта проходят относительно гладко, и не встречают сопротивления со стороны властей. Видимо, режим относится к общественной дискуссии примерно так же, как и к «справаводству па-беларуску»: пусть, мол, разговаривают и обсуждают что хотят, абы на улицтелей МВД. А вот то, что они решаются на такие операции самостоятельно, уже говорит о многом. Потому что, чтобы такое провернуть, надо иметь в руках все рычаги влияния на другие механизмы репрессивной машины. Надо иметь возможность самостоятельно решать вопросы с судьями, надо вести собственную оперативную слежку за демократическими активистами, возможно даже – иметь свою агентуру.

А это, в свою очередь, свидетельствует о том, что в деле подавления инакомыслия, белорусское МВД играет свою собственную, сольную роль. Чаще всего интересы спецслужб совпадают, и они поют в унисон. Но, когда надо, менты могут и сами действовать. И имеют для этого все возможности и рычаги.

Казалось бы: ну и что? Для демократов это «открытие» практической пользы не имеет. Их как сажали, так и будут сажать. И, по большому счёту, нет разницы, кто именно это делает.

Да, для сегодняшнего дня это не имеет никакого значения. Но для будущей Беларуси – имеет, и большое. Как минимум, на уровне понимания:

а) Реформа МВД действительно назрела и необходима. Точно также, как и реформа КГБ. Ни одна силовая структура не может быть полностью закрытой, и не может иметь признаки карательной структуры;

б) После смены власти деятельность МВД должна быть подвержена на менее жёсткой ревизии, нежели деятельность КГБ. Относиться к ним в стиле «они же просто выполняли приказ» - верх легкомыслия

В общем, как говорится, берём на заметку…

Крыніца: http://pkuznetsoff.blogspot.com/2011/08/blog-post_29.html

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльны бюлэтэнь
"Гомельскія Навіны Верасень 2011"
Заснавальнік: Лявон Грос
Галоўны рэдактар: Вольга Пыхава
246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 15,
рэдакцыя "Гомельскія Навіны Верасень 2011"

e-mail: GNavinki@gmail.com
Надрукавана на Папяровай фабрыцы "Палессе",
г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17.
Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.